Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 26 (80) Нядзеля, 5-га Ліпня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
„ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар.— 5 гр.

## Банкроцтва, ці поўны канец?

Беларускі пасольскі клюб распаўся. Паслы Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла й Валошын выйшлі са складу клюбу, дагэтуль вонкава адналітага, і заснавалі новую групу пад назовай „сялянска-работніцкая грамада".

Амаль—што адначасна з гэтым газэты паведамілі, што жыдоўскае парляманцкае прадстаўніцтва, дайшло да ўгоды з польскім урадам і, як пішуць польскія газэты, „з пазыцыі безумоўнай апазіцыі стала на грунт дзяржаўна-творчага супрацоўніцтва з урадам".

Як відаць з гэтага, вонкавай солідарнасьці жыдоў, з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, прышоў канец. Знамянітая „16-ка" пакончыла сваё бязслаўнае жыцьцё. Беларускае і Украінскае парляманцкія прадстаўніцтвы, якія гэтак шчыра скакалі пад дудку заправілаў блёку і пялі на загаданы ім тон, засталіся адны і, як піша ўкраінскі „Дзвін", атрымалі „дулю"...

Усё гэта выклікае патрэбу, хоць у агульных зарысах, падвясьці ітогі, высьвятліць хоць крыху сытуацыю і зрабіць нейкія вывады.

Што жыдам была карысна „16-ка" і што спрытныя парляманцкія іхнія гэшэфтмахеры сьвядома йшлі пад сьцяг „16-кі" не дзеля агульных інтэрэсаў нацыянальных меншасьцяў—гэта было ясна яшчэ ў 1922 годзе, у часе выбараў.

Занадта вялікія былі й ёсьць супярэчнасьці інтэрэсаў паміж жыдамі і іншымі меншасьцямі. Было зусім ясна, што жыды, раней, ці пазьней, пакінуць сваіх сяброў па „16-цы" і пойдуць на згоду з дужэйшым. Уся справа была ў тым, каб як мага больш вытаргаваць для сябе, хоць-бы і з крыўдаў для іншых.

Апіраючыся на саўсім салідарную ў кардынальных пытаньнях масу і заграгічныя свае ўплывы, жыды усё-ткі добра разумелі, што яны будуць яшчэ мацнейшымі, калі пашыраць свае ўплывы і тутака, ў межах Польшчы. І яны зрабілі гэта, арганізуючы „16-ку".

Апрача гэтага, жыдам важна было правясьці магчыма больш сваіх паслоў у Сойм. Зусім зразумела, што, толькі сваімі галасамі, яны ў многіх мясцох маглі-б не атрымаць мандатаў. Вось тут і павінен быў ратаваць блёк. Хітра ўложаны плян падзелу мандатаў даў ім некалькі лішніх паслоў, якія прайшлі ў нас, на крэсах, галасамі выключна беларускімі (Наваградчына—2 мандаты). Гэткім чынам, здабыўшы значны лік (аж 34) мандатаў і маючы для падмогі яшчэ й паслоў іншых меншасьцяў,—жыды прадстаўлялі ў Сойме значную сілу, з якой прышлося лічыцца.

Нарэшце, палітычная коньюнктура зложылася так карысна для жыдоў, што для іх зьявілася магчымасьць зьдзейсьніць свае лятуценьні ў сэнсе вытаргаваньня найбольшае выгады.

Дзеля гэтага блёк стаў для жыдоў зусім непатрэбным і яны, без усялякае літасьці, прадалі за концэсіі і прывілеі ўсіх сваіх супрацоўнікаў і сябраў па апазіцыі.

Як бачым, жыды, дзякуючы 16-цы, дасягнулі сваіх мэтаў.

Чаго-ж дабілася нашае беларускае парляманцкае прадстаўніцтва? Што дала яму „16-ка"?

Ведама, шмат тут залежала ад асабістага складу гэтага прадстаўніцтва, але, як ўбачым, і цяперашні склад яго залежаў ад таго, што выбары адбываліся пад знакам „16-кі".

Ня кожнаму беларусу было смачна йсьці пад гэтым знакам наагул, а дзеля таго, што варункі падзелу мандатаў і г. п. ўжо імкнуліся да, амаль—што, поўнага верхаводзтва жыдоў, — дык для большасьці проста немагчыма было йсьці на выбары разам з блёкам.

Карыстаючыся з гэтага, больш спрытныя, а з меншаю дэлікатнасьцю сумленьня, асобы захапілі ў свае рукі кіраўніцтва ўсей выбарчай акцыяй.

Дасягнуўшы свае мэты, гэтыя кіраўнікі (а праўдзівей кіраўнік), не маглі ўжо адмовіцца ад далейшага кіраваньня самым прадстаўніцтвам. Пачаўся падбор кандыдатаў па прынцыпу „фаворызацыі" і найбольшае падатлівасьці і, ў рэзультаце, атрымаўся „ўсе—беларускі вінігрэт" (мяшаніна).

Побач з шчырымі беларусамі—прайшлі „тоже бѣлоруссы" з выразна расейскай ідэолёгіяй; незалежнікі—з аўтаномістамі; арыентуючыяся на Усход — з паклоннікамі Заходу; людзі з вышэйшай адукацыяй—з амаль-што не анальфабэтамі. А ўсе разам — бяз ніякага выразнага палітычнага аблічча, без праграмы і агульнай яснасьці імкненьняў. Словам, склад атрымаўся зусім па смаку загадчыкаў блёку і кіраўнікоў выбараў. Можна з ім было рабіць усё, што пажадае кіраўнік.

Ужо само зьяўленьне на Соймавай арэне п. п. дэпутатаў з гэткім багажом, значна абнізіла ўражэньне і вялічча гэтага гістарычнага мамэнту. Гэта-ж было першае, свабодна выбранае на падставе дэмократычнага выбарчага закону, народнае беларускае прадстаўніцтва,—першы, ад некалькіх сталецьцяў, выхад беларусаў на шлях гістарычнага жыцьця.

Першыя крокі клюбу выказалі неадпаведнасьць асоб — вялічыне і паваге іх тытулу.

Пачалося тварэньне палітыкі па рэцэпту: „Калі вы нас так, дык мы вас гэтак . . . , а калі вы нас гэтак, дык мы вас—так"! То за ўрад, то проці. Пры абсуджаньні законаў—нейкія імглістыя спрацівы, нават „обструкцыі", але ніводнага контр-праекту, ніводнае паважнае прапазыцыі. За тры гады не знайшлі часу і магчымасьці заявіць праект закону хоць-бы аб аўтономіі. Пры гэтым шырокая, дэмагогічна-радыкальная агітацыя, падтрымоўвала незадаваленьне ў народзе.

Апазіцыя для апазіцыі і радыкалізм для радыкалізму—вось істота працы!

Ніякага сынтэзу гэтага радыкалізму і апазіцыйнасьці, нічога пазытыўнага!

Не дайшлі, нават, да угоды з найбольш дэмократычнымі групамі польскага грамадзянства, не знайшлі нейкі кампраміс ці, хоцьбы, „модус" дзеля супольнага сужыцьця і гаспадарча-творчай працы...

Словам, з усіх бакоў, поўнае і безнадзейнае банкруцтва.

Сумныя рэзультаты!

Выхад з 16-кі жыдоў павінен-бы, здаецца, крыху навучыць п. п. дэпутатаў, што йсьці тым шляхам, якім ішлі раней, няма куды і трэба зьмяніць тактыку. Замест гэтага—бачым распад клюбу. Гэты распад стараюцца апраўдаць патрэбай нейкага палітычнага падзелу. Да гэтага ўжо загадзьдзя падгатоўваўся грунт. Яшчэ нябошчыца „Беларуская Доля", а цяперака „Іскра", у сваіх артыкулах праводзілі гэту ідэю.

Патрэба падзелу матываваласа тым, што беларуская палітычная думка вырасла ўжо з сваіх прымітыўных формаў і падзел кірункаў яе зусім насьпелы; далей—што гэты падзел у пасольскім клюбе ніякіх шкодных насьледзтваў мець ня можа, бо ўсе падзеленыя часткі, імкнуцца да аднаго,—да вызваленьня беларускага народу.

Ня трудна аднак зразумець што гэта софізмы, што справа ня ў падзелах і нейкіх новых шляхах, а проста ў тым, што п. п. дэпуты зайшлі ў тупік ды кідаюцца ва ўсе бакі, шукаючы выхаду. Аднак—ці выхадам можна лічыць распад і так невялічкага клюбу (8 асобаў) на нейкія партыі? Не, гэта — аканчальнае аслабленьне яго сілы. Стварэньне партыяў у клюбе — гэта-ж барацьба за партыйныя ідэалы.

Гэтак, з мамэнту такога падзелу клюбу, як целага, прыходзіць, хіба, зусім не банкроцтва, а канец?!

Паны паслы будуць яшчэ змагацца, але ўжо паміж сабой, а беларускі народ, як і тры гады назад — застаецца над тым самым разьбітым карытам.

